д I—1912. Верэсень. (Сеньцябрь). 6-ая кніжка.




# ПЕРШЫ БЕЛАРУСКІ МЕСЯЧНІК СЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРКІ.



Падпісная цэна на 1 год **1** р. **20** кап. на 6 месяцоу **60** кап., за перамену адрэсу **20** кап. Можна падпісацца і аткрыткай, просячы, каб падпісную цэну налажылі на першы высланы нумэр. Рэдакція: **Вільня Завальная 7.**

Абвесткі працоунікоу, шукаючых мейсц у гаспадарках, друкуюцца за 2 маркі па 7 кап., толькі абвестка павінна мець ня больш 20 слоу.

Цэна абвестак за строчку пэтіту у поукалонны: перад тэкстам **40** к., за тэкстам **20** к. За разсылку рэклям пры месячніку вагай да 2 лотоу **7** руб. ад тысячы



**Цэна асобнага нумэру 8 кап., з дастаукай да хаты 10 кап.**

Нашых чытачоу просім заахвочываць другіх, каб чыталі і выпісывалі

# „САХУ“.

**„Саха“** каштуе на год с пересылкай усяго толькі 1 руб. 20 коп.

Практкчных гаспадароу просім пісаць у **„Саху“** што яны ведаюць са сваей практыкі, каб с таго маглі скарыстаць і другіе.

У адзелі **„Атказы Рэдакцііі“** будзем друкаваць атказы на пытаньня з якімі будуць звертацца да нас нашы падпішчыкі.

Годъ I—1912. Сяньцябр 6-я кніжка.

САХА

ПЕРШЫ БЕЛАРУСКІ МЕСЯЧНІК СЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРКІ.

# Як выробляць зямлю, каб яна добра радзіла.

Наш сельскі гаспадар думае, што толькі плугам і бараной можна выробляць зямлю і мець з яе карысць, а ня ведае, што сама прырода дае гаспадару важных такіх супрацоўнікоў, як сонцэ, вецер, мароз, вільгаць, толькі трэба умець выцягнуць з іх карысць. Есць і у паветры вялікае багацтво і дабро гэнае можна перэняць і аддаць зямлі — завецца яно азот. Наша канюшына, віка, гарох, лубін, многа яго перэнімаюць с паветра і перэдаюць зямлі, дзеля гэтаго кожнаму гаспадару трэба хаця па троху сеяць лубін, канюшыну і віку.

З вясны гаспадар спешае араць, баранаваць, каб толькі ад суседа не адстаць, а з гэнаго нічога добраго не выходзіць: не бярыся за плуг, пакуль баразна блішчыць, бо пасьля яе не разбарануеш, а земля пазбіваецца у груды і не закрые зерна. Ешчэ горш забаранаваць мокрую зямлю, бо пасьля зробіцца над ей скарынка, як бляха і пад гэту скарынку не даходзіць ні сонцэ, ні вецер, земля не перэгнівае, не раскладаецца, а толькі кісьне, аручы адкідаюцца вялікіе камы, цьвёрдые, як брус; на такой ральлі не спадзевайся добраго ураджаю.

Як толькі земля абагрэецца, высахне, выдабрэе, тады яна пад плугам крышыцца і часта бывае, што пазьнейшы пасеў абганяе ранны.

Трэба надта берагчы зімовую вільгаць у ральлі дзеля гэтаго нельга зямлю часта перэкідаць плугам, а пад яр пускаць толькі спрунжыновые бароны і не араць, калі ральля была заарана у восень.

Надта дрэнна калі ральля на зіму баранавана, бо баразна не перамерзне і ня будзе крышыцца пад плугам, а веснавая вільгаць скора збяжыць с поля і ў зямлі не астанецца.

Пад бульбу трэба узараць поле з восені два разы, а на вясну толькі перэбаранаваць і не садзіць бульбу у разору на цьвёрдую зямлю, а класьці на скібу, каб бульба магла расці і аседаць ня толькі у верх і па бакох карча, але і у глыб ат насеннай бульбіны. Не бяры на насеньне лішне дробнай бульбы і не садзі густа. Бульбу трэба асыпаць на лета разоў чатыры, толькі нельга абсыпаць калі земля мокрая і як толькі картоплі пачынаюць цьвісці.

Нашы гаспадары кажуць, што па канюшыне і па віцы дрэнна родзіць жыта, але гэта няпраўда, толькі трэба ведаць як зямлю абрабіць. Скасіўшы канюшыну, не дай зямлі высох-

нуць, не ганяйся за пашай, а зараз паміж кучак канюшыны пускай спрэнжыноўку і уздзірай зямлю на чорна, а потым, нядзель праз дзьве пачынай араць і так вырабіш добра поле пад жыта, што людзі не пазнаюць дзе была канюшына.

Часта можна бачыць на сельскіх палетках калі аруць аржанішчэ як выкідаюць на верх камкі гною. Ведаем, што нашы гаспадары разбіваюць гной дробна, але бывае, што зааруць яго лішне глыбока, або у мокрую зямлю, дзе не даходзіць ні сонцэ, ні паветрэ, так гной і прападзе скамянеўшы у зямлі.

Ярына і бульба дрэнна родзяць калі аржынішчэ позна, або глыбока заарана, бо яно да вясны не перэгніе, а пасьля перэшкаджае у рабоце і земля ня добра выробляецца. Не ганяйцеся за пашай на аржанішчы, бо з яе німа карысьці, а заорывай поле паміж коп, як толькі жыта сажнеш.

Не шкадуйце грошы на добры плуг і цяжкую барану, то каваль ад вас не пажывіцца, ды і зямлю добра выробіце.

Не шукайце заводнаго насеньня, а лепей сваё добра ачышчайце.

Трымайце менш жывёлы, а лепш яе карміце, бо с кепскаго гною карысьці німа.

На полі, дзе гной скора ідзе у глыб зямлі давай яго менш, але часьцей.

Не забывайце, што цяпер гаспадарыць бяз лубіну грэх.

**Юрка Бусел с-пад Слуцка.**

---

# Як гаспадараць у чужых краёх.

Перад намі кніжэчка украінскаго пісьменніка пад гэтым загалоўкам, напісаная так цікава, што кожны з ахвотай і карысьцю перэчытывае яе. У ей цікава апаведаецца, як гаспадараць людзі у чужых землях; як патрапляюць там хлебаробы з невялічкаго поля мець добры заработак і жыць у дастатку.

Вось мы хочэм расказаць як гаспадараць і жывуць селяне у каралеўстві Гэссэн (Немеччына).

У гэтым каралеўстві на кожных 100 гаспадароў толькі 80 маюць зямлі на нашу меру да 6 дзесяцін; каля 17 гаспадароў маюць ад 6 да 20 дзесяцін і толькі тры гаспадары маюць больш чым па 100 дзесяцін.

Як-жэ жывуць нямецкіе селяне маючы па большай часьці 5 дзесяцін зямлі?

Адзін з гэтых гаспадароў разсказаў, што ў сярэднім у іх, многа гадоў ужо падрад, былі такіе ураджаі з дзесяціны:

| | |
|---|---|
| Азімай пшаніцы . . . . . | 180—190 пуд. |
| Азімаго жыта . . . . . . . | 170—180 „ |
| Аўса . . . . . . . . . . . . | 170—180 „ |
| Бульбы . . . . . . . . . . | 1000—1200 „ |

Калі прыраўняць гэто да ураджаеў якіе бываюць у нас на Беларусі дзе лічыцца добры ураджай калі ў сярэднім намалоцяць 40 пудоў з дзесяціны, то пабачым, што ў Гэссэні селянін з аднэй дзесяціны збірае столькі збожжа, сколькі наш мае с 4 а то і с 5 дзесяцін.

Чаму-ж гэткая вялікая розніца у ураджаях? Земля там ня можна сказаць каб была лепшая чым у нас: большай часьцю гліна, гліна с пяском а то і шчырые, сыпучые пяскі. Але немец умела вырабляе сваю зямлю, умела дагледае расьлін, а глаўнае добра гноіць яе. Там кожны кавалачак зямлі вырабляецца, як на агародзе. Там кожная жменька гною аберэгаецца. Немцы кажуць: як ніхто не спадзеваецца мець ураджаю з незасеяннаго поля, гэтак сама не павінен мець надзеі на ураджай з неугноенаго поля. І яны гнояць зямлю ня толькі гноем але і штучнымі навозамі (попеламі), на куплю штучных навозоў (супэрфосфату, калі, салітры) трацяць вялікіе грошы. І дзеля гэтаго, што добра гнояць, немцы засеваюць штогоду усю зямлю не пакідаючы на папар.

Пладазмен у іх пры гэтым бывае такі:

I кармавое поле (бульба, буракі, адналетніе травы).
II азімае пшаніца і жыта.
III Ярына, авёс і ячмень.

Сеюць радавымі севалкамі; насеньне добра ачышчаюць. Кармавое поле штогоду добра гнояць. У нас цэлае лето скаціну ганяюць галоднай па папары, а зімой кормяць найбольш саломай памешанай з мала пажыўным сенам з балотных траў, а у немцоў, як бачым трэця часць зямлі засеваецца на корм для скаціны. І ня толькі трава, а усё зярно, апрача пшаніцы, не прадаецца на старану, а скармліваецца скацінай. Цэны на мясные і малочные прадукты там высокіе і селянам куды больш карысьці скарміць збожжэ скацінай і прадаваць ужо малако і мяса.

У іх у сярэднім бываюць гэткіе цэны на прадукты:

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1 пуд | жыта. . . . . . . . . . | 1 р. | 35 к. |
| 1 „ | пшаніцы . . . . . . . . | 1 „ | 70 „ |
| 1 „ | бульбы . . . . . . . . . . | —„ | 40 „ |
| 1 „ | сена . . . . . . . . . . | —„ | 47 „ |
| 1 „ | малака . . . . . . . . . . | —„ | 80 „ |
| 1 „ | жывой сьвініны . . . | 8—9 „ | — „ |
| 1 „ | жывой скаціны. . . . | 7—8 „ | — „ |
| 10 штук | яец . . . . . . . . . . | —„ | 35 „ |

Як бачым цэны на збожжэ там крыху большые за нашы, затое цэны на скаціну куды большые. Гэтым і тлумачыцца чаму нямецкіе селяне гэтак цікавяцца гадоўлей скаціны і здавён маюць прыказку: „душа гаспадаркі ў хлявох“.

Пры пяці дзесяцінах зямлі нямецкі селянін, дзякуючы

добраму ураджаю зерна і саломы, мае каля 3 кароў, 2 — 3 цялiц, 6 сьвіньней, 15 курыц, ды пару авечэк.

За кожную кормную сьвіньню, жывой вагі 8 — 9 пуд., ён дастае 80 — 90 руб., ды за кожную аткормленую карову вагой 25—30 пуд.—каля 200 з лішкам рублёў.

У гаспадарцы на 5 дзесяцінах каней не трымаюць, бо яны дужа дорага абходзяцца. Усе работы робяць каровамі; імі аруць, возяць, а пры тым ешчэ і дояць іх.

Як расказываюць тамтэйшые селяне, ад кожнай каровы, апрача работы, маюць 160 — 170 вёдзер малака. Вядро малака каштуе 80 кап. Значэ кожная карова за год дае даходу 130 рублёў.

Каровы там найбольш сімэнтальскаго заводу; яны у 2—3 разы большые за нашых.

Цэлы год кароў кормяць у хлеві, ды на прывязі. Летам кожны дзень селянін едзе у поле накасіць на корм скаціне сеянай травы. Пасьбішч і папароў у іх німа.

Скаціну дзержаць у чыстых цёплых хлявох. Гной што дзень згрэбаюць у неглыбокіе, вымошчэные ямы, а моча сцекае асобна у шчытные ямы. Малако прадаюць малочным супол кам. Калі суполка мае даход, то яго у канцы году дзеляць між учасьнікамі суполкі.

Трэба ешчэ сказаць, што селяне там па асобку кожын не прадаюць нічога і не купляюць Усё што патрэбна для гаспадарства—машыны, штучные навозы, харчы, усё гэта яны купляюць агулам, вялікімі парціямі, па дзяшовай цане. Калі-ж трэба ім прадаваць яйкі, малако, збожжэ, то яны так сама прадаюць агулам і, само сабой, прадаюць даражэй, чым каб кожны прадаваў асобна. На гэта селяне там злучаюцца у хаўрусы, ды таварыствы. Таварыствы селянскіе варочаюць вялікімі грашамі, маюць у гарадох свае крамы, канторы і інш.

Жывуць селяне невялічкімі засьценкамі, або па асобку на хутарах. Земля дужа дорага: да 1500 — 1800 рублёў за дзесяціну; дзеля гэтаго там і вуліцы вузенькіе, будоўлі сціснуты у адно мейсцо. Будынкі будуюць с цэглы і гліны.

Аб пажарах вялікіх не чуваць там. Хаты селянскіе зазвычай на два паверхі. У нізе пекарня, сталовая, ды сьвятліца для гасьцей, на гарэ спальні. Чыстата скрозь дужа вялікая. На вокнах вісяць фіранкі, падлога чыстая, малеваная, на сьценах малюнкі, скрозь разстаўлены выгодные мэблі.

Дзень раздзелены у селян гэтак: а 6 гадзіне раніцай пьюць каву с хлебам і з маслам; а 9 гадзіне сьнедаюць, ядуць каўбасы с хлебам; а 12 гадзіне абедаюць: крупнік, мяса, бульба і закусываюць салодкай стравай з фруктоў; а 4 гадзіне падвячоркаюць, ізноў пьюць каву с хлебам і з маслам; а 9 гадзіне вячэраюць. У кожнаго селяніна апрача адзежы да працы, ёсць ешчэ 2 гарнітуры сьвяточные. У сьвята усе адзеваюцца чыста, надзеваюць крахмаленые кашулі і колёровые гальштукі; кабеты адзеваюцца ў капелюхі і ў пекную адзежу. Многа ёсць ве-

ласапедоў, у сьвята на іх едуць на шпацэр, у будні на работу. У кожай хаці ёсць газэта і кніжкі па сельскай гаспадарцы. Непісьменных саўсім німа.

С.

---

# Што такое „сэлекція“ расьлін?

У жніва багата гаспадару у полі работы, а ешчэ больш там навукі. Пакуль збожжэ стаіць на пні—лепей за усё відаць які у каго ураджай, што не дало збажыне расьці ды урадзіць, дзе прычына дрэннаго ураджаю нават у добры год. Многа бывае гэтых прычын. Тут і ураджай насць зямлі і выробка і сеўба і насеньне і дагляд—усё як на далоні відаць. Хто аб усім гэтым парупіўся таму і жаць ёсць што, а каму родзіць не праца рук і розуму, а „год“, той заўсёды бядуе.

Адну толькі прычыну нашы гаспадары не бачаць, хоць яна што году дакучае ім. Гэто тая прычына, што сеюь у нас не найлепшые сарты насеньня а вось: абы зярно.

Паглядзіце на любую селянскую ніву на жытцо калі яно дасьпевае. Чаго толькі не ўбачыце там! як не выробляе зямлю сваю гаспадар, ніхай як добра пасее, а усё-ж добраго, поўнаго ураджаю рэдка хто дачэкаедца, ды і быць яго ня можэ, бо у нас на аднэй ніве расьце жыта і такое і гэткае і высокае і нізкое, адно калiва пахінулося пад налітым каласам, а другое ешчэ наліваецца—зялёнае, адно скорчылося бо хворае, а другое высокае харошае. Вось прычына ў чым: што ў полі расьце не адзін сорт збажыны а мешанка з розных сартоў і гэта мешанка не ў адзін час дасьпевае і гэтым сама сябе глушыць. Вось тут і становіцца ў помач гэта, „сэлекція“ або *падбор* лепшаго сорту зерна з ураджаю. Калі выпісаць сабе здалёку насеньня добраго сорту, то яно хутко на нашай зямлі і ў нашым клімаце перародзіцца. А калі с свайго поля атабраць лепшае насеньне, то з гэтаго насеньня папэўна вырасьце лепшае збожжэ. Уся „сэлекція“ апіраецца на гэтым законе прыроды, каторы кажэ: „якое насеньне-такое і пакаленьне“ з добраго насеньня, на тэй самай зямлі і ў тых самых варунках, заўсёды вырасьце добрае пакаленьне.

Перад самым жнівам і ў часе жніва адбіраюць гаспадары лепшые сарты расьлін у сябе на полі. Іншые зрываюць па адным каласку на буйнейшых калівах; выбіраюць аднакавые каласкі на масць, велічыню, туга набітые буйным зярном. Назбіраўшы колькі трэба, лепшых аднакавых каласоў, малоцяць іх і зярно хаваюць у сухое мейсцо. А зімой, вольным часам перэпускаюць праз сіты, каб з гэтаго зерна выбраць буйнейшые калівы і хаваюць іх на абсеў. Сеяць трэба толькі вялікім, адборным, цяжкім і бліскучым зярном, бо буйнае зярно дае крэпкіе, здаровые усходы.

Калі гэткім парадкам адбярэ ужо гаспадар с паўпуда зер н г,

ён робіць з ім тое самае, што і са скацінай гадаванай на расплод. Уважней вырабляе, ды гноіць зямлю, выбірае чысьцейшае, ды больш ураджайнае мейсцо даглядае, пільнуе і ў восені ужо мае столькі насеньня, што і самому ёсць ужо чым абсеяцца і суседзям прадаць, і гэто ужо будзе насеньне аднаго сорту, чыстае, бяз зеліва. бяз сажкі і ражкоў.

Гэта адзін спосаб вывесьці з „мешанкі" добры сорт збожжа. Ёсць ешчэ і іншые спосабы лягчэйшые, але і не такіе добрые. Можна на вока у полі прымеціць дзе збожжэ лепшае, раўнейшае, чысьцейшае, гэты кавалак асобна зжаць, вымалаціць, пераеяць і схаваць на насеньне. Можна і снапамі выбіраць лепшае збожжэ, але гэты способ ня пэўны

Такой расьліны, як бульба, „сэлекція" робіцца іначэй. Калі ешчэ націна не адцьвіла і ня сохне, бяруць кіёчак і ім мераюць усе лепшые кусты бульбы. С пад найвышэйшых кустоў бубьбу капаюць асобна, выбіраюць с пад гэтых кустоў гладзейшые бульбіны сярэдняго размеру і пасьля садзяць іх на добра вырабленай зямлі.

Летам калі бульба зацьвіце, ходзяць ізноў паміж кустамі і адмечаюць усе слабейшые кусты—іх у восень выкапываюць асобна і аткідываюць ад ураджаю. За два—тры гады гэткай работы можна вывесьці дужа добры сорт бульбы.

У нас мала увагі звертаюць гаспадары на падбор насеннаго зерна, а гэта вялікая шкода.

**А. Т.**

---

# Ад чаго на аўсе бывае іржа?

Па нашых старонах сёлета аб'явілася чорная іржаўчына і шмат аўсоў да званьня вынішчыла. Мала хто ведае с чаго яна зьяўляецца, затое ніхто не бярэцца ад яе бараніцца.

Нападае яна, як „гнілая плесьня" з насеньня, што перазімавало с прошлых гадоў і множыцца гэта хвароба, якраз, як гэта бывае з грыбамі,—надта скора, калі толькі паслужыць ей зіма і халодная весна. Вельмі цікава тое, што зімуе яна на дрэві, што завецца у нас крушынцом (па лацінску *Berberis vulgaris*) а па расейску барбарыс. І я уважаў, што дзе каля ярыны было гэтае дрэво, там авёс да звяньня зламаўся і памарнеў. Разумецца, у змаганьні з гэтай хваробай аўса, трэба зніштажаць кусты крушынца, калі ён дзе ёсць на полі. Але-ж усяго, па ўсей ваколіцы, на чужых нівах рубаць ня будзеш і дзеля гэтаго скажу ешчэ якой рады ужыць, каб ад гэтай хваробы бараніць ярыну.

Трэба развясьці у вядрэ гарачай вады, у дрэўлянай судзіне, фунтоў пяць сіняго каменя (меднаго купарвасу), пасьля выліць гэту ваду у 30 вядзёр рачной вады і добра размешаць усё. Пасьля у гэту ваду усыпаць авёс, каторы прыгатоўлен на

насеньне, даўшы яму мокнуць у гэтай вадзе гадзін дзесяць. Каб не папсаваць насеньня, добра яго перасыпаць у раствор з вапны і патрымаць з гадзіну. Гэтак калі зробіш, то можна быць саўсім пэўным, што ніякая іржа на авёс не нападзе.

Цяпер восень, аўсы пажаты, трэба памятаць павырываць кусты крушыньніку ды спаліць іх перад зімой.

Трэба ешчэ сказаць, што у нас саўсім напрасна называюць барбарыс крушынай, бо барбарыс ад крушыны вельмі розніцца. На барбарысе лісьці круглые, дробные, растуць густа, колер маюць, як у бацьвіньні, ягады гэтак сама растуць грозьдзямі (кучай), а крушына мае лісці крыху падобнае да вішнёвых, бяз цёмнаго бліскучаго налёту, ды і ягады растуць па сабе. Дык вось, толькі крушыннік, каторы завецца барбарысам трэба зводзіць, а не запраўдную крушыну, каторая у гэтым дзеле не вінавата зусім.

*Лідзкі пов.* **М. Пэрскі.**

# Кормная морква.

Бадай, ці ёсць што колечы карысьнейшае с паміж засевоў, якіе ўдаюцца на лёгкіх землях нашай Беларусі, як кормная морква, і толькі дзівавацца трэба, чаму так мала у нас яе сеюць. Мусіць-то асьцярожнасьць да ўселякай навіны, дый наша несьвядомасць — прычынамі, што мы не маем тэй вялікай падмогі ў нашай гаспадарцы, якую можэ даць нам кормная морква.

Не з газэт і кніжак, а с сваей уласнай практыкі, бо моркву гэту сею год у год здаўна, апішу вам, як каля яе трэба хадзіць і якую карысьць маю з яе.

Пад уселякіе засевы, а асабліва пад кормную моркву, найлепш, разумеецца, калі земля прырыхтавана з восені. Ну, але цяпер раіць аб гэтым не пара. На пачатак — на спробу можна абыйсьціся леташнім бульбяньнем, а хто заахвоціцца, — з восені—к налецьцю хай прырыхтуе сабе пад моркву большы кавалак зямлі. Кормная морква найлепш удаецца на ўселякіх лёгкіх грунтах: жвіраватым, вапенным і нават на чыстым пяску, абы толькі не сіпак і не падзол. Дык вось, хто мае кавалак леташняго бульбяньня на такім грунце, аб якім я казаў, ніхай сьмела там сее моркву, а пэўна не прападзе. Калі гэты кавалак зямлі добра выгноены, дый ешчэ і летась — пад бульбу кладзены гной, то больш ня трэба класьці навозу. Калі-ж земля пуставата, то вывязьці дробнаго (не саломістаго) с пад авечак, ці коней гною, роўненька яго растрасьці ды загараць. Ворка трэба каб была штонайглыбейшая. Дзеля гэтаго робяць так: адзін ідзе с плугам, ці сахой наперэдзі, а ззаду — тэй самай баразной ідзе другі конь з нарогам, якім абганяюць бульбу; толькі трэба вушы яго адняць і асадзіць, яго так каб што най-

глыбей падрушываў ён зямлю, бо чым лепш і глыбей спульхнена земла, тым большая будзе морква. Гэтак загараўшы, у сьлед роўненька забаранаваць. Вось поле пад моркву і гатова. Цяпер трэба парабіць знакі—равочкі дзе сеяць яе. Дзеля гэтаго найлепш мецць значнік, які ўжываюць, калі садзяць бульбу пад значнік, і ім перэцягнуць па баранаванай зямлі с канца ў канец. Хто не мае значніка, можна ўзяць такой даўжыні, як кавалак поля, што назначэны пад моркву, тонкую вяровачку, канцы яе папрывязываць да калкоў і адзін з іх заткнуць з аднаго канца, а другі калок — з другога канца поля і гэтак нацягнуць вяроўку. Вось гэта вяроўка і будзе знакам, дзе трэба сеяць моркву. Узяўшы завострэны калочэк, трэба роўна, як ідзе вяроўка, правясьці ім па зямлі, каб зрабіць маленькі равочак, у каторы, ўзяўшы у шчыпту насеньне, роўненька яго пасыпаць. Ззаду ідзе які падростак і ў сьлед чутачку загортывае яго зямлёй. Пасьля калкі з вяроўкай перэставіць дальш і ізноў гэтак сама зрабіць. Радок ад радка моркву сеяць так, як і бульбу, каб пасьля с канём можна было яе абганяць. У равочкі насеньня трэба не скупіць, бо найчасьцей бывае яно ня ўсё абходнае. Апрача таго памятайце, што насеньне морквы трэба купляць толькі ў пэўных вялікіх складах—магазынах, а ешчэ лепш—ў сельска-гаспадарскіх складах — хаўрусах. Прадаецца яна абціраная (бяз вусікоў) і не абціраная (з вусікамі). Лепш купіць, хоць грыўней на фунт даражэй, абціраную, а калі прыйдзецца купіць з вусікамі, то трэба канешне дома іх абцёрці, каб гэтых вусікоў зусім не было. Абціраць можна ў далонях, або на густым рэшэце. Гэткаго насеньня на морг трэба фунтоў 8—10. Есьць розные гатункі яе, але найбольш сеюць „белую кормную спалінскую з зялёнай галоўкай“. Гэткай трэба пытацца, дзе будзеце купляць.

Калі морква ужо пасеяна (а сеўба яе, зважыўшыся, ідзе надта шпарка), найбольшы клопат палоць яе. Першы раз трэба палоць, абы толькі значны былі радочкі морквы, — тады яна ешчэ ў вілачках. Каб гэтые радочкі лепш былі відаць, сеючы моркву, можна разам па каліву кідаць ячменю, вось тады і адзначацца яны. Паміж радкоў, траву можна матыкаваць, а дзе ідзе самы шнур морквы, там трэба апалоць рукой. Другі раз палоць прыйдзецца, калі морква добра ўжо падыймецца ў гару. Апрача поліва, цяпер ужо трэба і перэрываць яе, пакідаючы адну ад аднэй цалёў 6 пустога мейсца каб мела яна дзе разрастацца. Вырваную моркву можна даваць каровам, або сьвіньням. Калі трава ізноў стане усьседаць, можна ўжо моркву абагнаць, як абганяюць бульбу; пасьля аправіць і ачысьціць каля яе траву. Да восені прыйходзіцца абганяць разы два-тры. Выбіраць моркву можна каля Пакрова а то і пасьля, бо невялічкіх прымарозкоў яна не баіцпа. Выбіраць яе лёгка і скора, бо яна свабодна выцягіваецца з зямлі. Выбіраць лепш ня ўсю разам, а кавалкамі, каб маркоўнік не глуміўся. Ядуць яго надта ласа (а тады ўжо німа ніякай травы) сьвіньні, каровы, коні. Маркоўнік адрэзаць трэба роўна галоўкі, і моркву пала-

мануую, ці пакалечэнуюадабраць на першы ўжытак, а здаравейшую можна так сама захаваць на вясну, як і бульбу: ў капцах, ў ямах, ці ў склепах.

Якая-ж карысьць з морквы?

Першая—нішто столькі не дасьць з марга, што можэ даць морква. Сярэдні ураджай яе пудоў 1500 — 2000; а добры ураджай дае шмат болей. Другая карысьць, што німа здаравейшаго корму, як морква. А ядуць яе сырую, ці гатаваную так сама ласа ці то каровы, ці то коні, сьвіньні, авечкі, целяты, гусі, качкі, словам — уся наша жывёла. Згатаваная морква разам з бульбай, дый забеленая—смачная страва і для людзей.

Калі моркву даваць коням (фунтоў 20—30 у суткі), то яны могуць абыйсьціся і без аўса. Ізноў калі моркву дасьцё каровам, то смак малака шмат лепшы, гусьцейшае яно, дый німала прыбудзе. Апрача таго морква ў жывёлы выганяе чэрві; а для коней і жэрэбят надта здаровы корм пры хваробах лёгкіх.

У сельска-гаспадарскіх складах прадаюць машыны рэзаць моркву, але ў малых гаспадарках можна абыйсьціся і секачом.

Ешчэ адна увага. Памятаю, калі я пачаў сеяць на полі моркву і заахвочываць да яе сваіх суседзеў, яны уздумалі мяне перэхітраваць: „калі гэтак родзіць, думалі яны, морква на шчырым пяску—на полі, дай пасадзім у гародзе—дык вось набяромся“! Ну і сеялі на крэпка перагноенных гародах, дый на цяжкіх мейсцах; морква і прапала Некаторые сеюць яе у гранкі, але я бы не раіў гэтаго рабіць, бо гранкі перэймае веснавы вецер (а моркву сеяць чым раней, тым лепей), і высушывае іх, а морква для свайго уходу вымагае шмат вільгаці. Так сама прарашчаць насеньне, каб скарэй абыйшло — рызкоўна, бо калі ўдарыць суш, то хіба трэба паліваць, а гэта вялікая работа, іначэй морква прападзе.

Моркву можна сеяць праз колькі год на адным і тым самым мейсцы.

**Гаспадар.**

---

# Значэньне вугалёў з дрэва у аткорме дамовай жывёлы.

З давён—даўна карысталіся дактары вугальлем, як лекарствам каторае памагае перэтраўліваць яду. Але пры кармленьні дамовай жывёлы ён да апошніх часоў ня меў ніякаго значэньня.

Але толькі нідаўна зробленные спробы паказалі, што вугалі пры аткорме дамовай жывёлы могуць мець вялікае значэньне, а найбольш дык пры аткорме сьвінней і птушэк.

Англіец Дэ-Курсі зрабіў у гэтым кірунку колькі вельмі цікавых спроб над гусакамі качкамі (вуткамі) і сьвіньнямі. 18

качак і гэтулькі сама гусей было раздзелена на тры гурткі і кармілі саўсім адзінакавым кормам. Корм быў такі: варэная бульба, аўсянная і ячменная мякіна, замешаные як цеста і падкрашэная крыху кіслым зьбіраным малаком.

Першаму гуртку не давалі вугалёў, другому давалі маленькіе кусочкі, а трэцяму гуртку давалі парашок з вугалёў змешаўшы с кормам: чатыры часткі корму і пятая частка тоўчэных вугалёў. Праз чатыры тыдні паказалося вось што:

| | У качэк прыбыло вагі | У гусей прыбыло вагі |
|---|---|---|
| Корм без вугалёў— . . | $25^1/_2$ ф. | $6^1/_3$ ф. |
| Корм с кусочкамі вугалёў . . . . . . . . | $39^3/_4$ ф. | $29^3/_4$ ф. |
| Корм с тоўчэнымі на парашок вугалямі. . . . | 42 ф. | $54^1/_3$ ф. |

Гэткім парадкам вугалі каторые давалі стоўчэнымі на парашок найбольш прыбавілі вагі.

У сьвіньней каторых кормяць у хлявох блізка што чыстай бульбай з мякінай косьці бываюць вельмі крохкіе, бо мала маюць мінэральных солей. Калі-ж дадаць да корму сьвіньням вугалёў з дрэва, то косьці робяцца крапчэйшымі, як выказалі зробленные спробы, блізка у двая.

Гэта дужа добра паказывае якое вялікае значэньне маюць вугалі з дрэва пры корме жывёлы. Значэньне вугалёў зменшываецца для жывёлы каторая кормяцца мешанай стравай, або бегае на волі.

# Соль для скаціны.

Кожны гаспадар ведае, што скаціна любіць, калі ей даюць пасолены корм. Але далёка ня ўсе ведаюць якое папраўдзі яна мае значэньне у гадоўлі скаціны, а каторые і ведаюць, то бывае, што даюць скаціне соль не заўсёды, а толькі час ад часу і залішне многа на раз, а гэта як у першым, так і у другім прыпадку карысьці не прыносіць. Дзеля гэтаго гадуючы скаціну трэба дадаваць у корм солі, але рабіць гэта умела.

Практыка гаспадароў і вучоных паказала, што соль канечна патрэбна скаціне. Праўда, што соль ёсць і ў тых кормах каторымі корміцца скаціна ў сене, мякіне, але там гэтай солі вельмі мала, а ў саломе і саўсім не бывае. Дзеля гэтаго трэба заўсёды дадаваць солі да корму. Калі дадаць да корму скаціне солі, то яна лягчэй перэтравіць корм, будзе весялейшай і здаравейшай, сільнейшай і больш трывалай у рабоці, а дойные каровы дадуць больш малака. Гэта тады калі скаціне дадаюць

столькі солі, сколькі трэба. Калі-ж даваць солі замнога, то тады скаціне вельмі хочэцца піць, яна праз меру набохаецца вады і ўжо пачынае ад гэтаго дрэнна перэтраўліваць корм, а затым хварэць і спадаць с цела. Дзеля гэтаго трэба соль скаціне даваць у меру. Даюць соль розна: часам пасыпаюць корм сольлю, абрызгаўшы яго перад гэтым вадой; часам разводзяць соль у вадзе і ўжо гэтай вадой брызгаюць на сена, ці салому; часам ужываюць вялікіх кускоў камяннай солі, каторую кладуць проста у ясьлі, або прывязываюць дротам вышэй ясель, каб скаціна сама лізала соль калі ей зажадаецца. Гэты апошні спосаб бадай што найлепшы, толькі трэба пілнаваць, каб скаціна не грызла іх і не зьедала цэлых кускоў, бо гэта шкодзіць.

Калі соль даюць разам с кормамі то трэба пілнаваць каб на каня і карову у дзень даваць ня больш лота, а на авечку якую шостую часць лота у дзень.

Целятам, жэрэбятам і ягнятам добра ешчэ класьці у ясьлі, апрача солі і вялікіе кускі крэйды, каб лепей расьлі яны і крапчэлі у іх косьці. Апошнімі часамі, апрача солі і крэйды, радзяць дадаваць да корму жывёлам і тоўчэные вугалі з дрэва.

# Прыгатаўленьне ям пад дрэўкі.

Калі мы хочэм садзіць дрэўкі у восень, то трэба заранье прыгатовіць ямы, каб земля добра праветрылася, бо у сьвежые ямы садзіць нельга. Дзеля-гэтаго выбіраем кавалак поля са склонам на поўдзень з зямлёй прыгоднай пад сад.

Усё гэта мейсцо абгараджываем, каб скаціна туды не магла дабрацца і шкоды не нарабіла. Пасьля адмераем на восем аршыноў ад плоту першую лінію, па лініі адмераем мейсцы пад ямы; на грушы 10—12 аршыноў яма ад ямы, на яблыні па 8—10 аршыноў. У добрай зямлі садзім радчэй, у горшай гушчэй. Ад першай лініі адмераем другую на 10—12 аршыноў і гэтак далей, пакуль зямлі стане. Як ужо усё адмерылі і мейсцы каламі адзначылі бярэмся капаць. У лепшай зямлі капаем ямы меншые, у горшай большые, так ад 2 да 3 аршыноў шырыні і ад паўтара да 2 аршыноў глыбіны. Перш скідаем верхнюю зямлю з дзірваном у адну кучу, іcподнюю на другую кучу, а саму ніжню на трэцьцю. Гэтак пакапаные ямы павінны прастаяць з месяц, каб земля добра праветрылася. Пасьля прыгатаўляем гною да ямоў. Сьвежы гной дрэнны, найлепей будзе кампост, каторы лёгка можна зрабіць.

Усё сьмяцьцё, сухое лісьцё, падліну гразь с пад будынкоў, усякае зеліва, косьці, попел, сажу зьбіраем у адну кучу праз усё лета, разоў колькі перэкапаем рыдлёўкай, паліваючы гнаёўкай і на восень маем ужо шмат прыгатоўленаго кампосту. Да кожнай ямы у горшаў зямле поўваза, у лепшай чверць

ваза і кідаем каля ямы у чацьвёрту кучу. Пасьля, на месяц перэд саджэньнем ямы трэба засыпаць, каб земля злежалася. Засыпаем беручы па адным рыдлю с кожнай кучы, каб земля добра перэмешалася і сыплем у ямы да паўна. Да кожнай ямы павінен быць прыгатоўлен кол гладкі, без сукоў і мы устаўляем яго сярод ямы так глыбока, каб верх яго даставаў да першых сучкоў ушчэпкі. Паміж яблынямі і грушкамі, на лініі, можна садзіць сьлівы. каторые раней пачынаюць радзіць, а калі ужо яблыні і грушы разрастуцца, то сьлівы можна выкінуць, бо яны ужо састарэюць і перэстануць радзіць.

Паміж лініямі, пакуль дрэўкі маладые, якіх 10 гадоў можна араць і варыво садзіць, або парэчкі, агрэст, ці маліньнік.

**Алёна.**

---

# Аб гатунках фруктоў.

Кожны хто заводзіць сад, зачынае думаць якіе сарты выбраць у свой сад; ён выпісывае прэйскуранты, са смакам іх чытае, пытаецца у людзей, каторые ужо садзілі сады.

Тое самае прышлося і мне рабіць. Перэгаварыў я с цэлым сьветам, адзін радзіць так, другі трохі іначэй; познай восеньню, у сенцябры, паехаў я да аднаго садавода, каторы ужо развёў сад на 17 дзесяцінах і паглядзеў усе яблакі і ігрушы і кожнае пробаваў на смак і на вока. Потым набраў цэлы кошык лепшых фруктоў са слоў і с практыкі садавода, на кожным напісаў, як завецца гатунак і завёз дамоў. Лежалі яны у мяне месяцы са 2; яблакі усе добра трымаліся, ігрушкі слабей. Гэта усё гатункі зімовые і восеньніе, я іх тут і перэлічу, каб людзі скарысталі з маей практыкі:

**Яблакі**: 1) Крушынак (чырвоные, невялікіе, моцные, кіславатые), 2) Малінавае зімовае, ці „*Himbeerem-Oberland*“ (вялікіе, цёмна-чырвоные, саладкаватые), 3) Кронсельскіе (чырванаватые, вялікіе, саладкаватые), 4) Каштэля (жоўтые, бліскучые, падобные на антаноўку, смак добры і дэлікатны), 5) Цытрыновые зімовые (невялікіе, жоўтые, смак дэлікатна-кіслы), 6) Бойкен (вялікіе, зімовые, жоўтые, чырванаватые, кіслые), 7) Бісмарк (вялікіе, чырвоные, як бы апорт, толькі не так заліты чырвоным, не загніваюцца так, як апорт), 8) Рэнэт васковы (малые, салодкіе, смачные), 9) Рэнэт Гарбэрта (вялікіе, чырванаватые, саладкаватые, 10) Княжэскіе (*Pryncenapfel*))—невялікіе, даўгаваценькіе, салодкіе, жоўтые с чырвонымі палоскамі, 11) „*König Kuntze*“ —Кароль Кунцэ (маленькіе, ружовые, делікатна-салодкіе).

**Ігрушы**: 1) Бэра распускаючая—„*Fordant de bois*“ — Лесная красуня, (вялікіе, зеленаватые, смак салодкі, таюць у губе, пахнючые), 2) Калебоса плоцкая, альбо бэра грумкоўская (вялікіе, зялёные, сочные), 3) Урбаністка, 4) Добрая Людвіка (вя-

лікіе, жоўтавата-зялёные. надта сочные і смачные, 5) Кляпефаворыт (лепкіе. масляністые, сочные).

Гаварыў я аб гэтых гатунках з п. Мілерам, каторы заведуе тарговым садаводзтвам Кеппэ у Вільні, і займаецца дрэвамі ужо 25 гадоў. Ён мне сказаў такіе увагі. Каштэля у паўночнай часьці Беларусі, на цяжкіх землях часамі баіцца марозу, але прышчэпленае на нізкіх дічкох (русэне і райцы) вытрымываець і марозы, Рэнэта Гарбэрта калі не даспееець, то палежаўшы моршчыцца.

Гаспадар Янук Крыўда с Кучкурышэк з пад Вільні радзіць садзіць такіе гатункі:

Для гандлёваго саду — зімовые: 1) антоноўкі, 2) пэпінкі, 3) літоўскіе, 4) сеуэнкі, 5) цітоўкі, 6) апорты, 7) розовые бэтлэбэн, 8) Гданскіе кантовые, 9) бабушкіны.

Летніе: 1) баравінкі, 2) паласатые восенные, 3) папероўкі, 4) астраханскіе белые, 5) маліноўкі (*melonenapfel*), 6) каробоўкі.

З груш: 1) вэнгоўкі, 2) бэра шэрые, 4) безсемянкі.

**А. У.**

---

# Разные рады.

**Кармленьне кароу пры даеньні.** Па іншых гаспадарках можна бачыць, што пры даеньні кароў кормяць. Рабіць гэтак не раім. Калі карова і есць і доіцца разам, то ці каровы зменшаюць удой, ці дрэнна зужываюць корм, не перэжуваюць яго так, як трэба.

На практыцы паказалося, што ў тых гаспадарках, дзе кароў пры даеньні кармілі, *удой быу большы, як пачалі карміць кароу у другі час, а не пры даеньні.* І усякі зразумее, што гэта так, калі скажэм, што найбольшая часць малака вырабляецца каровай пры самым даеньні, ад прыліву крыві да вымя, а калі жывёла ешчэ і корміцца разам з даеньнем, то ей прыліў крыві патрэбен і да галавы, дзе сьлініцца і жвецца корм і да жывата. Дзеля гэтаго калі разам карова і корміцца і доіцца, то або вырабляецца мала малака, або дрэнна перажуваецца і сьлініцца корм, што пасьля шкодна адзываецца на здароўі жывёлы.

**Абарона пшчол ад мышэй.** Каму с пшчэльнікоў не даводзілося зімой бедаваць, што мышы нападаюць на вульлі? Адзін практычны расейскі пшчальнік дае на гэта такую раду, каторую, ён ужо выпрактыкаваў. Мышы вельмі ня любяць мяты. Вось ён як толькі паставіць вульлі на зімоўку, і стаў, класьці галінкі мяты усюды — і пад вульлі і пад пакрышку і на памосьце. Усе тые гады, што клаў мяту, шкоды ад мышэй не было ніякай, хоць мышэй было многа і летам і восеньню. А ў тые гады, калі ён не клаў мяты, мышы рабілі многа шкоды. Пшчолам ад мяты нічога ня робіцца.

**Згусцелы мёд.** Часам у сотах мёд гусьцее, ці як кажуць

па вучонаму крышталізуецца. Як-жэ даць раду? Амэрыканскі пшчальнік Бальдрыт раіць зрабіць гэтак. С такіх сотоў зьнімаюць пакрышэчкі (заскарупліны), ўстаўляюць у мёдагонку і аддзеляюць увес рэдкі мёд. Апасьля таго кладуць соты на дно катла і прыладжываюць высока над катлом ваду, каб яна памаленьку капала на соты. Пасьля перэварачываюць соты на другі бок і гэтак сама пускаюць на іх ваду. Вырobленые гэтак соты стаўляюць у вулей пшчолам. як надстаўку. Сільные семьі лёгка справяцца з гэтай работай. Пшчолы вадой, што у сотах разводзяць крышталы мёду і гэтым самым зберэгаюць і мёд і соты.

**Назар Бываеускі.**

**Напітак пры гарачцы.** Узяць кварту гарачай вады, палажыць туды 2—3 ложкі мёду і выцісьнуць туды сок з аднэй цытрыны (лімону). Гэты напітак памяншае гарачку, асьвежае ў хваробе прагавяе смагу і вызывае поты. Лекарскае значэньне мёду ведалі ўжо старые рымляне. Гэтак, вядомы рымскі вучоны Пліціуш, каторы жыў у першым сталецьцю па нараджэньню Хрыста, падробна апісывае лекарскае значэньне мёду. — „Гэта страва пшчол, — кажэ ён аб мёдзе, — здарова і для людзей, як для хворых, так і для здаровых. Мёд надае здаровы выгляд чэлавеку, паднімае выдзяленьне мочы, ачышчае жывот і уцішае жар крыві; ён падтрымлівае бодрасць і сьвежасць духа“.

**Аб апенках.** У познуюосень каля пнёў зрубаных дрэў і на самых пнях парастаюць цэлые горы апенкоў. Грыбы гэты мейсцамі лічаць благімі і не зьбіраюць іх, а саўсім напрасна. Апенкі вельмі здаровые і смачные грыбы. Сушыць іх вельмі лёгка, бо маюць тонкую шапачку каторая лёгка прасыхае, а дзеля гэтаго іх можна лёгка зрабіць вялікі запас на зіму. У некаторых мейсцах вялікарасеі апенкі лічацца так сама добрымі грыбамі, як і баравікі.

* *
*

**Аб аткармліваньні сьвіньней.** Вялікую абмылку маюць нашые гаспадыні, думаючы што для сьвіньні, абы заўсёды была еда пад носам, больш нічога ня трэба.

Сьвіньня як і кожная жывёла, а нават больш ешчэ, вымагае даглёду і чыстасьці. Кожны добра ведае, што толькі сьвіньня ніколі не забрудзе свайго гнезда; а і так трэба часта яго зьменяць. Калі будзеш сьвіньню час ад часу абмываць цёплай вадой, чысьціць яе 1—2 разы на тыдзень шчоткай, ці хоць бы згрэблам; яды даваць хоць па менш але часта сьвежэе ў чыстай пасудіне, за кожным разам прыймаючы яе с хлева, тады толькі сьвіньня відам расьце і сыцее.

Так сама добра, калі ў хлеве папрыбіваны планкі, аб каторые сьвіньня магла-б чэсацца сама.

Трапляюцца сьвіньні, каторые надта глумяць яду, вывачываючы яе з рашкі на зямлю.

На гэта ёсць рада. З двух бакоў пасудзіны зрабіць вушы (з жалеза, ці хоць бы з моцнай вяроўкі), за гэтые вушы падчапіць двума крукамі, асаджэнымі на кіях, а кіі гэтые прымацаваць да бэлькі ў гарэ. Гэтак пасуда з ядой не на зямлі будзе стаяць, а вісець і калыхацца, і сьвіньня ня толькі не дасць рады вывярнуць, але і з нагамі туды ня ўлезе, дык яда заўсёды будзе чыстая.

---

# АТКАЗЫ РЭДАКЦЫІ.

**Як звясьці у гародзе капусных чарвей.** *(Атказ падпісчыку Ліхтаровічу).* Дагэтуль проці капусных чарвей ужывалі карболь; цяпер адзін з немецкіх агароднікоў прыдумаў новы спосаб шмат танейшы, пры гэтым саўсім ня шкодны для расьлін. Бярэцца на 100 часьцей вады, тры часьці солі і 2 часьці вапны і гэтым аббрызгіваюць венікам капусту. Найлепей аббрызгіваць капусу вечэрам і рабіць гэта падрад праз два-тры дні. Лягчэй тады калі чэрвякі ешчэ маладые. Агароднік той кажэ, што на паліваную гэтай мешанінай капусту і пазьней чэрві не надта кідаюцца, бо ня любяць гэтаго смаку.

**Кратоу выгнаць** можна залiваючы, або кладучы у норы чаго небудзь вельмі сьмярдзючаго. Ужываюць на гэта чэснаку, кавалкі гнілого мяса, селедцы шпікунар, нафталіну і інш.

**Ці карысна гадаваць насеньне гароднін.** *(Атказ супрацоўніку Цітовічу).* Сельска-гаспадарскіе склады нашаго краю выпісываюць штогод на дзесяткі тысяч руб. рознаго гароднаго насеньня з заграніцы, а больш гэтаго выпісываюць с Польшчы, Украіны і Вялікарасеі. Найбольш выпісываюць насеньня буракоў, морквы і розных траў. Само сабой, што куды лепей было-б, каб гэтае насеньне нашы гаспадары самі гадавалі. Гадоўлей гароднаго насеньня маглі-б у нас займацца малазямельные гаспадары, каторые маючы мала зямлі павінны старацца выціснуць з яе як найбольшы даход. З марга (у дзесяціне $1^1/_2$ марга) зямлі можна сабраць 60—80 пудоў насеньня буракоў, што палічыўшы па 10 кап. за фунт, ў сярэднім дасць каля 300 рублеў. Гэткаго даходу не дасьць ніводная збажына. Толькі звертаем увагу, што пачаўшы гадоўлю насеньня, трэба вясьці яе вельмі акуратна, каб насеньне не было горшае за заграні́чнае. Пры гэтым трэба звертаць увагу на падбор высадак (глядзі стацьцю у гэтым нумэры аб сэлекціі), выбіраць найлепшые калівы на высадкі, садзіць на зямлі добра унавожэнай і добра вырабленай. Калі хочэце мець чысты сорт насеньня трэба адзін сорт, тэй самай расьліны садзіць далёка ад другога, бо як памешаецца пылок с кветак, то ня будзе ужо чысты, але мешаны сорт расьлін з вашаго насеньня.

Гадаваць насеньне гародзін дужа карысная справа і тое, што у нас селяне не займаюцца,—вінавата гэтаму цемната і недбаласць наша.

**Як звясьці хвошч.** *(Атказ п. І. Б—ну).* Хвошч (мейсцамі яго называюць скрыпам) расьліна многалетняя, разрастаецца с каранёў. С карэня, каторы ляжыць глыбока у зямлі, вырастаюць дваякіе каліві: зялёные, бахматые, падобные да елачкі і другіе гладкіе цямнейшые, а то і саўсім цьмяные; першые не выдаюць насеньня, другіе выдаюць. Каліві пустые, што не выдаюць насеньня растуць летам і восеньню, а тые каліві, што выдаюць насеньня з'яўляюцца вясной, як толькі сьнег згоніць (называюць іх мейсцамі *гігелямі*) і ўжо у маі пасьпеваюць.

Хвошч расьце на сапаватых землях, у каторых мала вапны. Хочучы зьвясьці хвошч трэба перш за ўсё асушыць зямлю канавамі і адкісьліць зямлю пры помачы вапны. Апрача гэтаго трэба вясной, як толькі пакажуцца гігялі (каліві што выдаюць насеньне), баранаваць зямлю, тады крохкіе каліві ламаюцца і прападаюць. Без асушкі і вапны, адным баранаваньнем вясной, нельга зьвясьці хвошчу.

---

## Хутары у Вілейскім павеці.

Разсяліліся, або разселяюцца на хутары 505 хат. У *гарадокскай воласьці* вёскі: С рокі, Зьвяркі, Пятроўшына, Карнюткі Кукелі, Вілуцэвічы, Караблі: Вязынскай воласьці; м. Ілія (60 хат), Возноушчына, Барысоўшчына, Малевічы (70 хат); Крайскай воласьці; Верабьёўшчына; Вілейскай: Снежкова (1 выселіўся); Парафіяноускай Лоцевічы (59 хат); Княгінінскай: Выголавічы, Яцкевічы (70 хат); Воукалацкай; Новая Слабацда; Порплішскай Кіотоўка Пузаны; Жосненскай воласьці: Яцкевічы, м. Запрудзьдзе, Пугачы; Хаценчыцкай: Залесьсе; у гэтым ліку ёсць вёскі, гдзе зганяюцца участкі у адзін кавалак, альбо знічтажаюць шахаўніцу.

Хутаранам землеустраіцельная камісія даець помач радамі, гатунковай, скацінай, гаспадарскімі прыладамі і грашамі (пазычкі).

Пастаўлена 8 бычкоў ангельска-фіонскаго заводу у вёсках: Пятроўшчына, Гарадокск. вол., Выгановічы Княг. в., Пугачы Жоснен. в., Лоцевічы Парафіяноуск. в., Познаўшчына Параф. в. Піотровічы Порпл. в., Пугачы Жосн. в., Малевічы Вязынск. в. Пастаўлены на развод 4 пары свіньней іоркшыроў: ў Выгановічах Княг. в., Іліі Вяз. в, Малевічах Вяз. в., Пятроўшыне Гарадок. в. 3 пары авэчэк заводу воўна-мяснаго, оксфорд-шырдаўк. У Пятроўшчыне, Іліі, Выгановічах. У в. Пятроўцы Порпл. в. працуець радавая севалка. Эльворці на 11 радоў (ц. 125 руб.). Авёс, ячмень пасеянные гэтай севалкай растуць лепш, з вясны цямнейшая зелень, і на 1 дзесяціну, як кажэ аграном Марчэнко, пудоў 10 даець больш ураджаю.

**А. У.**

---

Рэдактар-Выдавец **А. Уласоу**. Друкарня „Зніч“ Вільня.

# Сельска-гаспадарскіе навіны.

## Цэны збожжа у Лібаве.

| | | |
|---|---|---|
| Пшаніца | 1.24.—1.25 | к. |
| Жыта 120 ф. | 1.00 | „ |
| Авёс белы просты | 1.00.—1.10 | „ |
| „ чорны | 90.—88$^{1}/_{2}$ | „ |
| Грэчка | 1.01.—1.02 | „ |
| Ячмень | 1.00.—1.10 | „ |
| **Масла** у фунтах | 45.— 46 | „ |
| „ „ II сорту | 42.— 43 | „ |
| „ у кадках ня саленае | 42.— 35 | „ |
| „ „ соленае | 38.— 34 | „ |
| **Вотрыны** пшанічные | — 80 | „ |
| **Канюшына** на семя белая за пуд. | 12.50.—16.50 | „ |
| „ „ чырвоная „ | 7.40.—10.00 | „ |
| Сена . . . пуд | 35.— 40 | „ |

**Сельска-гаспадарская выстаука у Леплі Вітэбск. губ.** 7, 8, 9 чысла гэтаго месяца адбудзецца сельска-гаспадарская выстаўка у Леплі Вітэбск. губ.

**Дажджы.** Дажджы, каторые больш ужо месяцы ліюць безперэстанку, нарабілі страшэнна многа шкоды па ўсей Беларусі. Шмат гаспадароў за пагодай ня успелі сабраць сена, дык яно саўсім пагніло за гэты час, пажатая ярына на полі парасла у снапах і нават на пню, бо сёлета мейсцамі выпадаў град і прыбітые да зямлі каласы пусьцілі ужо новые ўсходы. Адным словам дажджы сёлетніе нарабілі страшэнна многа шкоды па ўсей старонцы.

**Ураджай.** Сёлета ураджай ва ўсей Расеі сярэдні. У нашым краю, у Польшчы, на Украйне, у Літве і Латышчыне ураджаі папсаваў крыху град, зашкодзіло гэто больш на ярыну, як на жыта. У Вялікарасеі пашкодзіло на ураджаі сонцэ, каторае выпаліло шмат збажыны падчас летніх упалоў. Наагул азімае лепей удалося сабраць і лепшае на узрост, як ярына. Мейсцамі па нашым краю пачала ад доўгіх дажджоў гніць бульба. Ільны удаліся добрые. Лубін сярэдні. Грыбоў нарасло многа. Фруктоў сёлета у нашым краю мала. Ягады урадзілі.

**Сельска-гаспадарская школа у Варонцу** паведамляе, што экза-

# У горадзе Радашкавічах.

*27 Сенцябра будзе першая з наградамі выстаука скаціны* селян і дробных гаспадароў.

Выстаўка будзе 27 сенцябра, на плацу, каля пажарнаго дэпо.

Запісывацца на выстаўку ня трэба, а проста прывясці сваю скаціну к 9 гадзіне зрана. На выстаўку могуць прыводзіць з кароў ад $^{1}/_{2}$ году да 12 гадоў, бугаі ад $^{1}/_{2}$ года да 5 гадоў. Выстаўляць могуць толькі гаспадары, каторые самі працуюць

на зямле. Памешчыцкая скаціна і дворных наймітоў і ш недастаець. Награды будуць ад 5 руб. да 25 руб. У гэтых выдавацца будзе палавіна награды, а другая палавіна выда... праз год, калі гаспадар прывядзець ізноў тую — ж карову на другую выстаўку, каторая ізноў будзе у Радашкавічах у 1913 гаду. Награды будуць выдавацца лепшым жывёлам:

1) за добры склад,
2) за малочнасць,
3) за дагляд і харчэваньня скаціны.

Прысуджаць будзе камісія зложэная с казённаго губэрнскаго агранома, учон. агронома, А. Сніткі, рэдактара „Сахі" А. Уласова, гаспадара Ам. Шнэйдэра і др. Выстаўка з наградамі робіцца дзеля таго, каб пахваліць і падтрымать тых дробных гаспадароў, каторые старающца завадзіць лепшую скаціну.

**Камітэт.**